Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 1500 м. п.

# НАШ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 18.000 м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 3500 мк., сярод тэксту 3000 м. і на 4 стр. 2500 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 19 Серада, 1-га жніўня 1923 г. Год I.

## Чарговая крыуда.

На два з паловай мільёны беларускага народу, які апынуўся ў межах Польскай Дэмакратычнай Рэспублікі ёсьць усяго каля двух дзясяткаў так наз. беларускіх школ, дзе дзякуючы рэпрэсыям школьных інспэктароў выкараняецца ня толькі беларускае выхаваньне, але нават і родная мова.

Тая-ж самая Дэмакратычная Рэспубліка хоча аставіць паўтрация мільёна сваіх грамадзян бяз роднай школы, бо польскай (чытай: панскай) большасьцяй адкінута ў Сойме сьпешныя дамаганьні беларускіх і украінскіх народных прадстаўнікоў аб адкрыцьці школ у матчынай мове.

Польскі Сойм нашоў гэтыя слушныя дамаганьні ня сьпешнымі і адкінуў іх разгляд, перадаўшы ўсю справу ў прасьветную камісію, а там яна пралежыць год - другі, — колькі гэта будзе карысным для паноў над панамі.

Ды як-жа было не адкінуць калі міністар асьветы Гломбінскі выразна адзначыў, што школьніцтва меншасьцяў у Польшчы цераз меру ўжо добра пастаўлена, што яму зашмат дадзена правоў і іхніх школ хапае аж надта. Такую злую лухту чуць ад міністра асьветы! Ці-ж не абніжае гэта павагу ўраду. Ці-ж не пакрыўдзіць гэта народнае пачуцьцё вышэй 30 процэнтаў грамадзян Польшчы — так наз. меншасьцяў? Ці-ж ня ёсьць гэта грубое нарушэньне Польскай Канстытуцыі (арт. 109)? І што скажа Польшчы, за яе невыпаўненьне пунктаў з розных трактатаў (асабліва сёмы пункт Рыскага трактату), другая дагаварываючая старана гэтых трактатаў? Што скажа ашуканы абяцанкамі Беларускі народ? Дзе тыя магчымасьці агульнага паразуменьня, спакойнага будаўніцтва?

Хьена-пясты аб усім гэтым мала дбаюць, абы ім добра было, — і падрываюць карэньні дубу - беларускаму народу, хай гінець дуб, так развэжаюць гэтыя паны як вядомае неўдзячнае стварэньне.

Міністар Гломбінскі заяўляе, што не хапае вучыцялёў, каб разьвіць шырэй школьную сетку. Зусім зразумела, на аграмадныя абшары „крэсаў“, насялёныя няпольскім народам, трудна наскрабаць у маладой дзяржаве кадры вучыцялёў, каб збудаваць польскую школу. Але „крэсы“ беларускія маюць даволі сваіх вучыцялёў, каб абслужыць, ня толькі гэтыя 44 беларускія школы, аб якіх кажа пан міністар, але ўсе родныя школы, якія-б здаволілі беларускае насяленьне.

Нашых вучыцялёў шмат ёсьць па вастрогах, дравасекамі ў лясных купцоў-эксплёататараў, у войску, служаць наймітамі ў гаспадароў ці то цэлая армія безработных валэндаецца па родных узлоньнях. Нашы вучыцялі сілком адарваны ад родных школ на Кракаўскіх курсах школіліся ў польскасьці, каб пасьля, аставіўшы беларускі народ без сваіх культурных кіраўнікоў, кінуць іх у цэнтр Польшчы, ў польскія школы. Вучыцялі Вішнеўскі, Гайка, Райчонка, Малатаўнік і іншыя апынуліся аж у Лодзі, Апанасовіч Калковічанка, Борка — у Калішу і г. далей. Пасьля гэтага пан міністар мае слушнасьць жаліцца на недахват вучыцялёў **у польскіх школах**. Аб гэтым кажа і „Głos Nauczycielski“, адзначаючы на сваіх шпальтах, што ў гэтым школьным годзе ў польскіх школах налічвалася 9784 вучыцялі бяз вучыцельскай падгатоўкі. Пан міністар налічыў аж 44 беларускія школы. Добрыя беларускія школы калі ў іх беларуская мова выкладаецца як прадмет ня больш аднэй гадзіны ў дзень.

Пан міністар апраўдываўся, што няма памяшканьняў для школ меншасьцяў. Дзе-ж ім быць калі ўсе дасканальныя школьныя будынкі, збудаваныя сялянамі даваенных часоў, забраны пад польскія школы, ў якія беларускае сялянства не пасылае сваіх дзяцей, дамагаючыся сваіх школ.

Але якія-б прычыны і перашкоды пан міністар асьветы не знаходзіў ці лепш не ствараў, ім няма апраўданьня. Беларускі народ мусіць, мае права і хоча мець свае школы, і польская конституцыя гэтае права яму забясьпечае.

Ясна адно, што пануючым паном лягчэй валадаць цёмнымі масамі і яны скрытымі і адкрытымі спосабамі стараюцца не даць беларускіх школ, а калі дзе ёсьць такія, дык хочуць спалёнізаваць. Пан ведае, што цяперашняя польская школа выгадовывае грамадзян у панскім духу, выгадовывае панскіх папіхачоў, тады як беларуская—стаіць на стражы працоўных.

Цяпер ясна адно, што пасьля колькігодняй барацьбы беларускага народу на месцы і праз сваіх прадстаўнікоў у Сойме за родную школу, пасьля абяцанак, якія ўжо ўвайшлі ў прывычку, пасьля адказу прызнаць сьпешнасьць дамаганьняў школ для меншасьцей, пасьля соймавай прамовы міністра асьветы,—цяпер ясна, што беларускіх школ не дадуць.

Іншага ад буржуазнага ўраду чакаць і нельга было. але да гэтага часу не адчувалася яно так выпукла, так бязсорамна адкрыта.

І вось мы, пазбаўленыя права карыстаньня законам (конституцыяй), выносім усю гэтую справу, гэтую нябывалую ў нашыя часы крыўду на суд народу.

Ж.

## Траецкія муры.

Дэлегат польскага ўраду на Віленшчыну, пан Валеры Роман, загадаў перадаць муры Траецкага манастыра ў Вільні на ўласнасьць Польскага гаспадарства.

Калі і кім заснаваны гэты манастыр—няма пэўных вестак. Каталіцкія і уніяцкія пісьменьнікі кажуць, што заснаваны ён быў яшчэ пры літоўска-беларускім князі Вольгердзе яго праваслаўнаю жонкаю.

З гісторыі ведама, што пры тым-жа князі Вольгердзе, у дубовым гаі на гары, дзе цяпер манастыр, былі замучаны першыя прадстаўнікі хрысьціянскае культуры ў краі—праваслаўныя Кумец (Іван), Няжыла (Антон) і Круглец (Астап).

З таго часу гэтая гара зрабілася дарагім месцам для праваслаўных віленцаў. Жонка Вольгерда, праваслаўная княгіня Вульяна, з дазволу мужа, збудавала тут Траецкую царкву.

Посьле, як ведама, пераемнік ахрышчонага пакаталіцку Ягайлы, вялікі літоўска-белар. князь Казімір I (1440—1492), быўшы з 1447 году да 1492 году і каралём Польшчы (пад імем Казіміра IV), забараніў праваслаўным будаваць новыя цэрквы і аднаўляць старыя.

І Траецкая царква блізу разбурылася.

Але літ.-белар. вял. князь Жыгімонт II Стары (1505—1548), які з 1606 г. да 1548 г. быў таксама і каралём Польшчы (пад імем Жыгімонта I Старога), дазволіў праваслаўнаму князю Канстантыну Іванавічу Астрожаскаму збудаваць у Вільні дзьве праваслаўныя цэрквы.

І гэты князь збудаваў *каменную* Траецкую царкву (і яшчэ адну каменную—Мікольскую).

Збудаваў ён іх у памяць бітвы з маскоўцамі пад Воршаю на р. Крапіўне, 8 верасьня 1514 г., калі стоячы на чале 35 тысячаў літоўска-беларускага войска дашчэнту разьбіў 80 тысяч маскоўцаў, страшэнна рабаваўшых Беларусь.

Трэба адзначыць, што Жыгімонт Стары добра адносіўся да праваслаўных беларусаў ня дзеля якой асаблівай да іх любові, а дзеля свае дзяржаўнае мудрасьці, з палітычных рахубаў. Ен разумеў, што рэлігійныя перасьледаваньні, асабліва за часу панаваньня ягоных двух папярэднікаў, хілілі беларускіх вяльмож да маскоўскага князя, а гэта пагражала небясьпекаю Польшчы. Іначай кажучы, тады на рэлігійным грунце дзеялася нешта падобнае да таго, што цяпер дзеецца ў нашым краі на соцыяльным грунце... Толькі мудрасьць Жыгімонта Старога, на шчасьце ў рэшце-рэшт беларускага народу, не даступна цяпер гэнію польскіх эндэкаў! Ціснучы беларусаў, яны самі сабе капаюць яму, як калісь іхныя дзяды-прадзеды іншымі, але падобнымі штукамі выкапалі яму даўнай Польшчы...

У пачатку XVII веку Траецкі манастыр рознымі несправядлівасьцямі, з дапамогаю езуітаў і дзяржаўнай польскай улады, быў перавернуты з праваслаўя на ўніяцтва.

Але й тады, як ён быў беларускі, так і застаўся беларускім.

Беларуская культура ўжо за колькі вякоў да уніі дасягла ў краі вялікага разьвітку.

Першая друкарня ў Вільні была — беларуская (1525 г.), нашага знамянітага дзеяча Францыска Скарыны. Польская друкарня адчынілася тут толькі ў 1576 г., на 51 год пазьней.

Першы каталіцкі маліцьвенік (каноньнік, ці акафістнік) ў нашым краі надрукаваў той-жа доктар Ф. Скарына на беларускай мове.

І дадатковае набажэнства ў каталіцкіх касьцёлах адбывалася тады пабеларуску (казаньне, пяяньне малітваў і псальмаў).

І з прыняцьцем уніі таксама яшчэ нічога не парамянілася. Сам Іпаці Пацей, найбольшы абаронца уніі, пісаў свае кнігі пабеларуску, друкуючы іх кірыліцаю (некаторыя экзэмпляры і цяпер ёсьць на сховах у Траецкіх мурох ў бібліятэцы Правасл. Сэмін.).

Базыльянскі ўніяцкі ордэн, заснаваны ў Траецкім манастыры, толькі пад канец свайго істнаваньня, пад рознымі нацёкамі вельмі апалячыўся, а то скрозь не адступаў ад роднае беларускае культуры і пакінуў у ёй не адну гістарычную памятку.

Як піша польскі гісторык Балінскі [1]), Траецкія манахі купілі друкарню ў выдатных культурных беларускіх дзеячоў-братоў Мамонічаў. А ёсьць гістарычныя падставы, што да Мамонічаў перайшла друкарня Ф. Скарыны, і такім чынам з Траецкімі мурамі зьвязана так ці іначай уся Залатая Пара нашае літэратуры і гісторыі нашае культуры наагул. З гэтых друкарняў выйшлі першыя выданьні Літоўскага Статута на беларускай мове, граматыка Лаўрэна Зізанія (1596 г.) і інш.

Многія братчыкі-беларусы, беларускія паны і вяльможы ўкладалі здабытыя мазалямі беларускага народу кошты на збудаваньне і паляпшэньне Траецкай царквы, ўсіх муроў і ўсяго багацьця Траецкага манастыра. Дэсыць спомніць іменьні Корсакаў ці Скуміных-Тышкевічаў. У Траецкай царкве яшчэ й дагэтуль умуравана ў сьцяне прыгожая, у старым беларускім стылі, надгробная каменная пліта з старым беларускім напісам, што тут пахаван віленскі праваслаўны бурмістр Апанас Брага з сынам (1576 і 1580 г.).

Многа гістарычных беларускіх людзей жыло ў гэтых мурох. Некаторыя з іх тут-жа, як ведама з гісторыі, і пахаваны. Між іншым, і слаўны беларускі пісьменьнік XII в., Тодар Еўлашэўскі (пратэстант па рэлігіі), з любоўю спамінае Траецкі манастыр, што там пахаван яго родны брат (праваслаўны).

[1]) *„Histor. Wilna“, cz. II.* стр. 122.

стаўлена Сойму. Але ўжо закончыліся шматмесячныя абрады Сойму, а абяцанай уставы аб школах нацыянальных меншасьцяў у Сойме не прадстаўлена.

Дзеля таго: 1) што ў сучаснай дэмакратычнай дзяржаве ня можа ў працягу некалькіх гадоў істнаваць падобнае становішча рэчаў, каб больш як 1 мільён грамадзян (на Холмшчыне, Падляшшы і Палесьсі) ня мелі ані аднэй пачатковай школы ў роднай мове, а больш як 2½ мільёны (на Валыні, Холмшчыне, Падляшшы і Палесьсі) ані аднэй дзяржаўнай сярэдняй школы; 2) што як міжнародныя трактаты, так і конституцыя Польскай Рэспублікі з 17 сакавіка 1921 г. забесьпячаюць нацыянальным меншасьцям разьвіцьцё іхнай школы ў роднай мове; 3) што ў палітыцы народнай асьветы ўраду павінна быць пэўная пасьледавальнасьць і ня можна адмаўляць грамадзянам украінскай нацыянальнасьці таго, з чаго карыстаюцца іншыя нацыянальныя меншасьці, альбо нават такія-ж украінцы ў іншых частках Польскай Дзяржавы—канечна патрэбна безадкладна адчыніць з пачаткам наступаючага вучэбнага году дзяржаўныя пачатковыя, а таксама і сярэднія украінскія школы на абшарах Люблінскага і Пінскага, адносна Валынскага ваяводзтваў.

Адсутнасьць адноснай уставы, рэгулюючай школьную справу для нацыянальных меншасьцяў, ня можа быць прычынай неадкрыцьця украінскіх школаў на жаданьне людпасьці, дзеля таго, што і бяз гэтай уставы істнуе ў Дзяржаве 6000 школаў няпольскіх. Гэткае штучнае тлумачэньне — адсутнасьць адноснай уставы — неадкрыцьця пачатковых і сярэдніх школаў на украінскіх землях нікога ў сьвеце не пераканае, а тым больш украінскі народ, які на ўласныя вочы бачыць, як растуць на ягонай зямлі, проціў ягонай волі сотні і тысячы польскіх школаў, а украінскія школы ня толькі не ствараюцца, а нават тыя, што ўжо істнавалі, год ад году ўсё больш польскім урадам зачыняюцца. Датыхчасовая палітыка польскага ўраду адносна украінскай школьнай справы ёсьць проста нячуванай ў XX веку палітыкай дэнацыяналізацыі больш 6 мільёнавай часткі 40 мільённага украінскага народу. Шовіністычнасьць і згубнасьць для украінскага народу польскай школьнай палітыкі яшчэ выразьней увыпукляецца пры параўнаньні яе з палітыкай адносна украінскае школы ў іншых дзяржавах.

Беларуская школьная справа з прычыны полёнізацыі і антыконстытуцыйнай палітыкі школьных і адміністрацыйных уладаў знаходзіцца ў яшчэ болей дрэнным становішчы і ня мае яна ня толькі належнага пад'рыманьня з боку дзяржавы, але на кожным кроку спатыкае перашкоды і прасьледаваньні. Беларуская людпасьць у значнай сваёй частцы, устрымліваючыся ад пасыланьня дзяцей да польскіх школаў, павялічавае лік анальфабэтаў і стаіць перад пагрозай моральнага і умысловага зьдзічэньня.

Дзеля гэтага ніжэйпадпісаныя прапануюць:

Высокі Сойм захоча ухваліць:

Прызываецца ўрад, каб даручыў Пану Міністру Народнай Асьветы зараз-жа распачаць акцыю адчыненьня і арганізаваньня пачатковых школаў, а таксама і сярэдніх на ўсіх абшарах украінскіх і беларускіх земляў, з тым, каб з пачаткам новага школьнага году ўжо функцыянавалі украінскія і беларускія школы ў ліку адпаведным да ліку украінскай і беларускай людпасьці.

Варшава. Дня 26 ліпня 1923 г.

**Подпісы.**

## Беларуская культурная праца у Магілёўшчыне.

У Магілёўшчыне да гэтага часу беларуская культурна-асьветная і навуковая праца вядзецца Беларускай Асацыяцыяй студэнтаў Магілёўскага Ін-ту Нар. Асьветы. Асацыяцыя гэтая склалася з Беларускага Магілёўскага гуртка, які у свой час добра вёў працу.

Спачатку ў склад Асацыяцыі ўваходзіла каля 30 асоб, а ў гэты час ужо маецца каля 100.

Асацыяцыя, ня гледзячы на цяжкае матар'яльнае становішча сяброў і на адсутнасьць усялякіх сродкаў у Асацыяцыі, усё-ткі шмат апраўдала сваіх заданьняў. Так, яна некалькі раз выяжджала на вёску, дзе дарма ставіла спэктаклі для сялян, рабіла даклады аб гісторыі Беларускага краю, знаёміла з цяперашнім становішчам, беларускай культурай і г. д.

Шмат было пастаўлена спэктакляў і канцэртаў у г. Магілёве як у гарадзкім тэатры, так і ў Доме Працы і клюбе Ін-ту, куды заўсёды прыходзіла шмат публікі.

Кожную нядзелю ў клюбе Ін-ту Нар. Асьветы адбываліся агульныя сходкі сяброў, на якіх вырашаліся жыцьцёвыя пытаньні Асацыяцыі і рабілася шмат, дакладаў на тэму навуковай працы сяброў Асацыяцыі, арганізовываліся дыспуты на тэмы: беларуская мова, беларуская культура, рэлігійнае пытаньне, нацыянальнае пытаньне і г. д.

Было зроблена Асацыяцыяй абсьледаваньне гістарычных мест Беларусі, як гор. Оршы, дзе маецца шмат памятак старажытнасьці (пад'земныя ходы, манастыры і г. д.), гор. Прапойску, гор. Магілёва. У летні час мелася на ўвазе зрабіць экскурсію ў Варкалабава, Бялынычы, Галоўчын, Цяперын і г. д. з культурна-навуковай мэтай, але гэтаму пашкодзіла рэформа ІНА. Стараньнем Асацыяцыі быў уведзен у курс лекцыяў ІНА курс беларусазнаўства, які выкладаўся Магілёўскім беларусаведам Д. І. Даўгялам.

Асацыяцыя прымала ўдзел сумесна з упаўнаважаным па беларускаму пытаньню гр. Жураўскім і ў арганізацыі беларускіх школ пачатковых, **якіх ў Магілёўскім павеце маецца дзьве**. Можна было-б адчыніць і больш, але з прычыны адсутнасьці школьных працаўнікоў, якія маглі-б працаваць у беларускай школе, гэтага зрабіць было немагчыма. Школу пажадалі адчыніць самі сяляне—адну на свой кошт, а другую на дзяржаўны.

Цяпер, калі студэнты разьяжджаюцца на летнія канікулы, Асацыяцыяй дадзен загад кожнаму з сяброў вясьці культурна-асьветную працу па сваіх вёсках, закладываць беларускія гурткі, зьбіраць усялякія беларускія песьні, загадкі, беларускія вырабы і іншыя матар'ялы датычна беларускай культуры.

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## З Віленскага Жыцьця.

**Мітынгі не адбудуца.** З прычыны таго, што Соймавыя сэсіі працягнуцца бадай да 10-га жніўня, абвешчаныя нашымі пасламі мітынгі ў Ілы, Гарадку і Вялейцы ў першых датах жніўня не адбудуцца.

Дырэктар Віленскае Беларускае гімназіі грам. А. Нэканда-Трэпка выехаў у дазволены яму школьным куратарыумам адпачынак; часовае спаўненьне абавязкаў Дырэктара ўзложана на грам. А. Луцкевіча, вучыцеля гімназіі.

Заняткі ў Віленскай Беларускай гімназіі пачнуцца ў Суботу, 1-га верасьня а 9 гадз. раніцы.

Вызначаныя вучням папраўкі павінны быць зданы абавязкова паміж 27 жніўня і 1 верасьня. Вучань, які мае папраўку і не зьявіцца здаць яе ў вызначаны тэрмін, павінен прадставіць паважныя доказы прычыны свайго спазьненьня, інакш будзе пакідацца на другі год.

У Віленскай Беларускай гімназіі ўжо распачалася прыгатаваўчая праца да наступнага школьнага году. Распрацованы навуковы плян, запрошаны новыя пэдагогі: па матэматыцы — п. Аляксей Іваноў, вядомы ў Вільні пэдагог матэматык; па гісторыі літэратуры прошаны вучыцель Несьвіскае Беларускае гімназіі грам. Заморын, які скончыў гуманістычны аддзел унівэрсытэту.

У цынкаграфіі Дэмкуса (быўш. Юрашайціса) забаставалі 31 ліпня рабочыя, трэбуючы 100% падвышкі.

## Судовыя справы.

### Працэс „Саюзу Пралетарыяту местау і вёсак".

### Другі дзень (25. VII. 1923.)

(*Гл. № 18*).

Сьв. **Рышман** Антон, сучасны Прэзэс Саюзу гарэл. Працуе ў фабр. „Арго". Падчас забастоўкі на фабр. Аўсей Эпштэйн выступаў проці неарганізованае забастоўкі. Палітычнае дзейнасьці з боку Браўдэ і Эпштэйна ня бачыў.

Сьв. Вікторыя **Рамаshowская**, работніца фабрыкі „Крышталь". Чула, што рабочыя фабрыкі падпісалі выбарчы сьпісак № 5. Гутарак, каб забраць подпісы назад, на фабрыцы ня чула. Сьпісак марксістаў на выбарах да Касы хворых падпісала, таму што лічыла яго рабочым сьпіскам. Падпісала сьпісак па прапазыцыі Сэкрэтара Шымшона.

Сьв. **Мураўская**, работніца тае самае фабрыкі, нічога новага аб сьпіску марксістаў ня кажа.

Сьв. Ант. **Рышман**, спытаны, дзе цяпер знаходз. Шымшон, адказаў няведаньнем.

Сьв. **Бартніцкі**, тэхнічны сэкрэтар Цэнтр. Бюра Проф. Саюзаў, паказвае, што Шымшон зьнік, пакінуўшы недахваты ў касе саюзу гарэлачн.

Сьв. Язэп **Арановіч**, вучыцель жыдоўскае гімназіі. Быў на адным з мітынгаў у салі Крэнгеля. Спытаны аб зьмесьце прамовы Браўдэ, паказаў, што яна гаварыла аб палітычных правох кабетаў і ўдзеле іх у палітычным жыцьці. Вымаўляючы прозьвішча абв. Браўдэ, сьведка называе яе „колежанкаю".

**Прэзэс.** Чаму сьведка называе абвінавачаную Браўдэ колежанкаю? Дзе сьведка з ёю колегуе?

Сьв. **Арановіч**. Я, як студэнт, слухаў з ёю разам лекцыі ў Віл. Унівэрсытэце.

На пытаньне абаронцы, Арановіч пацьвярджае, што ў сваёй прамове Браўдэ прыраўноўвала клясу капіталістаў да ціграў, а рабочых да авечак.

Сьв. Хаім **Айзэнбэрг**—студэнт. Нічога новага не паказвае.

Сьв. **Фрэйдкэс**, таксама студэнт. Прыпамінае, што абвінавачаная Браўдэ гаварыла перадапошнім аратарам.

Сьв. **Бэйліс**—студэнт. Браўдэ знае вельмі мала. Аб палітыцы з ёю гутарак ня меў і партыйнасьцю яе ня цікавіўся.

Сьв. **Цывелевіч**—студэнт. Паказвае больш-менш тое самае.

Сьв. Альфонс **Радовіч**—шавец. Працаваў у аднаго гаспадара з абвін. Грышунам. Палітычнай работы з яго боку не заўважыў.

Сьв. Віцэнты **Паборца** — шавец. Абв. Грышуна ведае добра, як сябра Управы Саюзу, якім быў і сьведка. Далей нічога новага ў параўнаньні з ранейшым сьведкаю, не паказвае.

Сьв. Станіслаў **Мончак**—шавец. Быў сябром Управы Саюзу. Грышуна знае. Аб палітычнай яго працы нічога ня ведае.

Суд абвяшчае, што дапрос сьведкаў закончаны.

**Пракурор** заяўляе, што мае яшчэ пытаньні да некаторых з сьведкаў. Таксама просіць агаласіць адозвы камуністычнае моладзі і адозву на беларускай мове, асабліва тое месца, дзе гаворыцца аб Домбалі.

**Абаронца** просіць пазв. ссылацца на зьмест паказаньня сьведкі абвінавачаньня Карася, які не зьявіўся.

Пасьля 5-мінутнае пярэрвы Суд абвяшчае, што просьбы старон, а таксама новы дапрос некаторых з ужо дапрошаных сьведкаў, па заяве пракурора, будзе вырашаны на заўтрашнім паседжаньні, якое пачнецца а 9 гадзіне раніцай. Прысутных на залі сьведкаў Суд кліча быць заўтра на паседжаньні.

А 8½ гадз. ўвечары другі дзень працэсу закончыўся і Суд абвясьціў пярэрву да заўтрашняга дня.

### Трэці дзень (26. VII. 1923 г.)

Суд абвяшчае аб сваей пастанове, што старонам пазволена ссылацца на прыложаныя да справы дакумэнты.

Аглашаецца паказаньне сьведкі Карася (кіраўніка агентуры аддз. 5 ф. дзяржаўнае паліцыі) ў сьледаваце ля аб абвінавачаным Вэнгроўскім, што ён зьяўляўся прадстаўніком камуністычнага руху у Проф. Саюзах.

Сьв. **Стэцкі**—кіраўнік 1 рэф. аддз. 5 ф. дзяржаўнай паліцыі ў Вільні—на гэты раз паказвае пры адкрытых дзьвярох, што выступаць ад сьпіску марксістаў пры выбарах у Раду Касы Хворых былі ўпаважнены абвінавачаныя Вэнгроўскі і Грышун.

**Абаронца** устанаўляе, што ўпаважненьне было па сьпіску № 5 да Сойму.

Сьв. **Годвод** сьцьвярджае, што сэкрэтаром Саюзу мэталістаў быў Балеслаў Маркевіч—адзін са сьведкаў.

Суд абвяшчае, што судовае сьледства скончана. Слова для абвінавачаньня даецца Пракурору.

**Пракурор** у кароткай 20-мінутнай прамове налягае на тое, што пад назваю „Саюз Пролетарыяту местаў і вёсак" хаваецца камуністычная партыя, якая імкнецца да таго, каб перавярнуць сучасны грамадзкі лад Польскай Рэспублікі. Сьпісак № 5 ня быў партыяй, як паказалі вызваныя з Варшавы сьведкі Цешэйко і Жарскі. Задача № 5—вызваленьне рабочых масаў з-пад ярма капіталістаў, але ўчасьнікі гэтага сьпіску ня йшлі разам з іншымі соцыялістычнымі сьпіскамі. Тэорыя Маркса гаворыць аб тым, што да ўвядзеньня саcыялістычнага ладу буржуазнае грамадзянства павінна дайсьці поўнага свайго разьвіцьця. Пэ-пэ-эсы йдуць да соцыялізму шляхам эволюцыі. Іншыя йдуць да дыктатуры пролетарыяту проста. Гэта ўсе тыя соцыялісты, якія ў Польшчы стаяць налева ад П.П.С. Дзеяньні і імкненьні абвінавачаных падпадаюць пад арт. 126 карнага Кодэксу. Сьпісак № 5 ставіў сабе задачу ўвайсьці ў Сойм, каб пасься збурыць яго зсярэдзіны ды завесьці ў Польскай Дзяржаве іншы лад, які істнуе за 200 кілёмэтраў на ўсход ад нас у іншай дзяржаве. Пракурор прыпамінае, што будучы ў 1918 г. ў Лёндане бачыў так званы „склеп бомбаў", у якім было шмат брашур і адозваў, пачынаючы ад камуністычных і канчаючы анархістычнымі. Група абвінавачаных са сваімі адозвамі зьяўлялася ў нас чымсьці падобным да сказанага „склепу бомбаў". Абвінавачаныя зьбіралі рабочых у саюзе гарэлачнікаў, а пасьля на мітынгах у залі Крэнгеля. Яны зьяўляюцца бандаю труціцеляў і муціцеляў чалавечых душ разам з камуністычнаю партыяй. У старыя часы ніводзін соцыяліст і перад судом не адмаўляўся ад сваіх перакананьняў. Арганізацыя 5-цёркі была вельмі хітраю. Чаго-ж увайшлі абвінавачаныя ў гэту арганізацыю? Асаблівасьцяй бальшавікоў зьяўляецца тое, што яны з нічога, з простага нуля робяць пасьля перавароту важную фігуру. Невядома яшчэ, ці не дакляраваны былі абвінавачаным у будучыне гэткія пасады, аб якіх яны навет ніколі й ня думалі. Кара, прадугледжаная ў арт. 126 К. К. здаецца Пракурору слабаватаю. Прак. цытуе некалькі фразаў пабеларуску з адозвы, дзе прыводзіцца ссылка на Домбаля. Што да Бэньяміна Эпштэйна, дык Пракурор згаджаецца звольніць яго ад кары, наказаўшы яму, каб чэсна працаваў і больш не грашыў.—Прыгавар Суда для рэшты абвінавачаных,—канчае Пракурор,—павінен быць строгім ня толькі для іх саміх, але і для тых „усходніх чарвякоў", якія напаўзаюць сюды да нас, каб усё перавярнуць і паставіць на масцы незалежнай Польшчы свае знакі: „Р.С.Ф.С.Р." Суд павінен сказаць ім: Хочаце працаваць у нас чэсна, дык працуйце, а не дык вяртайцеся туды, скуль прыехалі і „скатертью дорога".

(*Канец будзе*).

# З Менску.

### Новыя тэатральныя сілы.

З Маскоўскай Студыі Беларускага Дзяржаўнага Акадэмічнага Тэатру прыехалі ў Менск на летні адпачынак нашы будучыя артысты. Яшчэ 2 гады, і Беларускі тэатр будзё мець цэлы шэраг маладых, поўных, сілы, шчыра жадаючых падняць культуру на вёсцы, тэатральных працаўнікоў.

У беларускай студыі працу вядзе адзін з лепшых рэжысэраў Масквы Смышляеў, які вельмі прыхільны да беларускага тэатру.

Т. Смышляеў увосень прыедзе ў Менск за новай групай моладзі і прачытае колькі лекцыяў аб тэатры. Тагды-ж чакаецца пастаноўка студыйцамі двух п'есак „Чорт і баба" (зусім новая пастаноўка студыі) і „Шчыры вартаўнік" (пераклад).

Заняткі ў студыі вядуцца па апошніх тэатральных мэтодах. Маецца на чарзе падгатоўка перакладных п'ес Сэрвантэса, Шэксьпіра і інш.

**У. Я-ч.**

### З працы этнографічнай экспэдыцыі.

У ліпні ў Ігуменскі павет выехалі для збору этнографічных экспанатаў на вяскова-гаспадарчую выстаўку і для этнографічных досьледаў М. Мялешка і беларускі кампазытар Тараўскі.

Паездка іх зойме больш тыдня.

